# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ-ВІЛЬНЯ-БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

№ 14(70) 13-19 траўня 1994 г. Кошт 150 руб.

**ГЕНАДЗЬ КАРПЕНКА:** *«Кебіч бачыўся чалавекам справы. Але я вельмі расчараваўся ў ім».*

*Лукашэнка на працягу амаль двух гадзін апавядаў, як* **ЁН ЗМАГАЕЦЦА З КАРУПЦЫЯЙ...**

**Кліентаў кантрабанды сты знаходзяць** *у кварталах чырвоных ліхтароў і ігорных дамоў.*

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ:** *Менск – Варшава – Масква.*

## У ПАДТРЫМКУ КАНДЫДАТА АД БНФ

Па стану на 11 траўня ініцыятыўнай групай па збору подпісаў у падтрымку кандыдата ў прэзыдэнты З.Пазьняка ў Горадні сабрана й зарэгістравана 8 тысячаў подпісаў.

– Просім усіх сяброў ініцыятыўнай групы, – гаворыць старшыня Гарадзенскай Рады БНФ К.Жынь, – на працягу пятніцы зарэгістраваць усе сабраныя подпісы й даць аб гэтым зьвесткі. Жадаючыя паставіць свой подпіс у падтрымку З.Пазьняка могуць яшчэ зрабіць гэта ў пятніцу й суботу па адрасу: вул.Савецкая,10, пакой №1.

## ЗАСТАЎСЯ БЕЗ ПАДТРЫМКІ

Паводле інфармацыі Беларускага тэлебачаньня Славянскі Сабор "Белая Русь" адмовіўся надалей зьбіраць подпісы для А.Р.Лукашэнкі. Прычына – Лукашэнка ў сваіх прамовах агітуе не на збліжэньне з Расеяй, а наадварот. Да таго ж, Славянскаму Сабору не да густу акружэньне Аляксандра Рыгоравіча.

Усе чатырыста чалавек з ініцыятыўнай групы А.Лукашэнкі ад Славянскага Сабору адклікаы.

## ЦІ ЗНОЙДЗЕ ЛУКАШЭНКА 10 МІЛЬЁНАЎ?

Міністр абароны Беларусі П.Казлоўскі ажыцьцявіў сваю даўнюю пагрозу ў адрас нардэпа А.Лукашэнкі, падаўшы на яго ў суд. Падставай для звароту генэрала ў суд стаў выступ Лукашэнкі ў адным з сакавіцкіх нумароў газэты "Зьвязда", дзе апошні абвінаваціў яго і іншых членаў урада ў дачыненьні да розных незаконных махінацый і патрабаваў іх адстаўкі.

Цікава, што П.Казлоўскі і іншыя пакрыўджаныя чыноўнікі больш за месяц толькі пагражалі нардэпу судовым іскам. І толькі ў канцы красавіка, пасьля таго, як МУС і Генпракуратура рэспублікі праверылі "чамаданы " Лукашэнкі й далі афіцыйнае заключэньне аб тым, што Кебіч і яго акружэньне ня маюць дачыненьня да незаконных зьдзелак, генэрал аднёс іскавую заяву ў Савецкі нарсуд Менска. Міністр абароны патрабуе ад Лукашэнкі публічнага прабачэньня й 10 мільёнаў рублёў за маральную шкоду.

## У ЗБОР ПОДПІСАЎ УКЛЮЧЫЛІСЯ ЗАГСЫ

Некаторыя прэтэндэнты на пасаду Прэзыдэнта Беларусі праяўляюць вынаходлівасьць пры арганізацыі працэса збору подпісаў у сваю падтрымку. Аглядальнік газэты "Зьвязда" В.Жданко 26 красавіка паставіў свой подпіс на выбарчым лісьце гендырэктара Міжнароднага інстытута мэнэджэмента В.Цярэшчанка ў аддзеле запісу актаў грамадзянскага стану Першамайскага раёна Менска. Супрацоўніца ЗАГСа, праглядаючы дакументы спадара Жданко, які прыйшоў з мэтай падаць заяву на рэгістрацыю брака, быццам бы выпадкова прапанавала яму падтрымаць кандыдатуру Цярэшчанкі. Актыўная вусная агітацыя падмацоўвалася ўлёткамі з яго праграмай.

СІМ адзначае ўдалую знаходку ініцыятыўнай групы Цярэшчанкі: звычайна ў ЗАГС наведвальнікі прыходзяць з пашпартамі й ня вельмі супраціўляюцца, калі ім прапануюць падтрымаць таго ці іншага кандыдата, незалежна ад яго палітычнай платформы.



**Штогод на Радуніцу беларусы ідуць да могілкаў, каб ушанаваць памяць памерлых. У Скідалі гэтае сьвята па традыцыі адзначалася народным шэсцем і імпой.**

**Фатаграфаваў І.БАРЫСАЎ.**

## ЗЬВЯРТАЮЦЬ УВАГУ НА ПАРУШЭНЬНЕ ЗАКАНАДАЎСТВА

20 народных дэпутатаў падпісалі калектыўны запыт на імя Старшыні ВС РБ М.Грыба, кіраўніка Цэнтрвыбаркама А.Абрамовіча й Генпракурора В.Шаладонава наконт парушэньня членамі ініцыятыўнай групы В.Кебіча заканадаўства аб выбарах. У ім, у прыватнасьці, адзначаецца :"Пачаўшаяся выбарчая кампанія ўжо ў першыя дні прадэманстравала антыдэмакратычныя дзеяньні выканаўчай улады ў Рэспубліцы Беларусь. Вядзеньне выбарчай кампаніі за абраньне прэзыдэнтам цяперашняга Старшыні Саўміна Вячаслава Кебіча даручана дзяржаўнаму апарату, які выконвае гэтую місыю ў рабочы час, за дзяржаўныя сродкі. За гэтую работу, адкінуўшы прамыя абавязкі, энэргічна вядуць барацьбу першы намесьнік Старшыні Саўміна Міхаіл Мясьніковіч, міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, міністр адукацыі Віктар Гайсёнак, старшыня Дзяржкампрама Ўладзімір Курэнкоў. Здаецца, Саўмін забыўся пра тое, як цяжка жывецца людзям, у якім цяжкім стане знаходзіцца эканоміка..."

Дэпутаты прыводзяць канкрэтныя выпадкі парушэньня заканадаўства. Па іх зьвестках, у Менску для збору подпісаў у падтрымку Кебіча у кватэры грамадзян прыходзяць супрацоўнікі міліцыі. Зборшчыкі подпісаў пагрозамі спрабавалі прымусіць падпісацца за прэм'ера студэнтаў Менскага радыётэхнічнага інстытута. Памочнік міністра адукацыі абавязаў супрацоўнікаў міністэрства зьвіціца ў пэўны час з пашпартамі для зручнасьці каманды Кебіча.

Парлямэнтарыі патрабавалі ня толькі расьледваньня гэтых фактаў, але й прыцягненьня для кантроля за правядзеньнем выбараў міжнародных назіральнікаў.

## ПАРТЫЯ АМАТАРАЎ ПІВА ЗА ПАЗЬНЯКА?

Нягледзячы на тое, што тэрмін збору подпісаў у падтрымку кандыдатаў на пасаду прэзыдэнта сканчаецца 15 траўня, Партыя аматараў піва (ПАП) страціла надзею сабраць неабходныя 100 тысяч "аўтографаў" на карысьць свайго вылучэнца А.Кальцова. Разьлік аматараў піва на тое, што, аплаціўшы паслугі зборшчыкаў подпісаў (дакладную суму грашовага ўзнагароджаньня за працу лідэр ПАП А.Рамашэўскі назваць адмовіўся), яны без праблемаў праштурхнуць свайго вылучэнца ў прэтэндэнты, ня спраўдзілася.

Кіраўніцтва партыі вырашыць, на каго з больш удалых кандыдатаў ім паставіць. У тэлефоннай гутарцы спадар Рамашэўскі паведаміў, што хутчэй за ўсё ПАП будзе падтрымліваць лідэра БНФ З.Пазьняка.

## АПАЗЫЦЫЙНАЙ ГАЗЭЦЕ ПАГРАЖАЕ ВЫСЯЛЕНЬНЕ

Як паведаміў галоўны рэдактар газэты "Свабода" І.Германчук, у бліжэйшы час яго выданьне можа застацца без памяшканьня. Дзяржкамстат, які валодае будынкам на вуліцы Пуліхава ў Менску, дзе знаходзіцца рэдакцыя, адмаўляецца працягваць тэрмін арэнды, які скончыўся 20 сакавіка. У той жа час, ён загадзя не папярэдзіў аб сваім намеры прыпыніць адносіны з ёй. На думку Германчука, гэта выклікана ціскам з боку ўрадавых чыноўнікаў, якія не зацікаўленыя ў выхадзе "Свабоды" у час перадвыбарчай кампаніі.

**СІМ**

## «ЧАМУ Я ПРАГАЛАСУЮ ЗА ПАЗЬНЯКА»,

**— на такое пытаньне карэспандэнт "Пагоні" папрасіў адказаць людзей, якія вырашылі падтрымаць кандыдатуру лідэра БНФ на прэзідэнцкіх выбарах.**

**В.У.І., камэрсант:** "Таму што ён стаіць за незалежнасьць Беларусі, за аднаўленьне яе сапраўднай гісторыі. Ён разумны, сьмелы, адукаваны. Паставіўшы на гэтага чалавека, я буду мець упэўненасьць, што ён свае абяцаньні спраўдзіць. Ня тое, што Кебіч, які ўжо шмат чаго паабяцаў, але ўсё гэта засталося проста словамі."

**А.Рысковіч, руская,** пакуль нідзе не працуе: "Я нядаўна пераехала на Беларусь з Расеі, але заўважыла, што беларусы - бязхрэбетны народ, кожны, хто пажадае, можа з іх вяроўкі віць. Таму Беларусі патрэбны лідэр, які б узьняў народ з каленяў."

**А.Малышаў, пэнсіянэр:** "Пазьняк - дальнабачны палітык. Шмат з таго, што ён прапанаваў зрабіць раней, з цягам часу спраўдзілася. Я паважаю яго таксама за прынцыповасьць і рашучасьць."

**В.Дзьмітрыеў, журналіст:** "Я падтрымаю на выбарах Пазьняка (хаця не маю ўпэўненасьці ў тым, што ён пераможа). Калі ён набярэ хаця б 30 працэнтаў галасоў выбарчыкаў, той, хто прыйдзе да ўлады, будзе ведаць, што апазыцыю падтрымлівае вялікая колькасьць людзей, і ўлічваць гэта пры выкананьні сваіх абавязкаў."

**С.РЭЎКА.**

## ДЗЯКУЙ КЕБІЧУ — ПРЭМ'ЕРУ

Ізноў у гарадзенскіх шпіталях востра не хапае самых звычайных лекаў. Цэнтралізаваныя пастаўкі амаль скончыліся. Новы мэханізм папаўненьня аптэкаў не распрацаваны.

Адзінае выйсьце, на думку мэдыкаў,- гуманітарная дапамога, якая пакуль што сыстэматычна папаўняе сьціплы запас.

***

Рост коштаў на прадукты харчаваньня значна зьнізіў асартымэнт харчовых гатункаў на сталах гарадзенскіх пэнсіянэраў. Так, сямідзесяцігадовая бабулька з вуліцы Гагарына больш за два месяцы харчуецца толькі бульбай і чырвонымі буракамі. Васьмідзесяцігадовая бабулька з вуліцы Цітова варыць толькі крупяныя кашы на вадзе.

**Г.СТЭЛЬМАШОНАК.**

## МЕСЦА ВЯСЕЛЬЛЯЎ САСВАТАЛІ ГАНДЛЯРАМ

Апошнім часам гарадзенцы ўсё менш карысталіся паслугамі Дома сямейных урачыстасцяў,з-за чаго ён прыносіў адныя страты. Фірма "Младзі" і Рэспубліканская асацыяцыя маладзёжных прадпрыемстваў і арганізацый знайшлі памяшканьням новае прымяненьне, адкрыўшы гандлёвы дом "Славиа", у якім арганізавалі продаж радыёапаратуры славутай японскай фірмы "Pioneer". Тэхніка пастаўляецца непасрэдна ад вытворцы, таму каштуе параўнальна нядорага.

У гандлёвым доме прапануецца таксама мэбля фірмаў Усходняй Эўропы.

**А.ДУК.**

АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

# ГЕНАДЗЬ КАРПЕНКА: «Я ВЫСТУПАЮ ЗА РАЗУМНЫЯ МЕРЫ»



**Генадзь Карпенка нарадзіўся ў 1949 годзе ў Смалявічах. Жанаты, мае двух дзяцей. Народны дэпутат Беларусі, мэр Маладэчна, член-карэспандэнт Акадэміі навук, старшыня выканкама Партыі народнай згоды. Сёньня ён субяседнік нашай газэты.**

**– Генадзь Дзьмітрыевіч, чаму вы адмовіліся ад прапановы Вячаслава Кебіча пайсьці да яго намесьнікам па эканоміцы?**

- Давайце ня будзем мусіраваць гэтае пытаньне. Яно было несур'ёзным. Спачатку прапаноўваюць, а назаўтра акружэньне Кебіча ў газэтах заяўляе, што ніхто мяне не запрашаў. Пасьля размовы з Вячаславам Францавічам, пасьля яго няпэўных прапаноў аб рэфармаваньні ўраду я канчаткова зразумеў, што ён ня можа праводзіць рэформы, і падпісаў заяву аб адстаўцы Вячаслава Кебіча. Спачатку я быў яго прыхільнікам, спадзяваўся, што ўрад пад яго кіраўніцтвам будзе плённа працаваць. Кебіч бачыўся мне чалавекам справы. Але потым я вельмі расчараваўся ў ім.

**- Апазыцыя вам прапанавала стаць прэм'ер-міністрам кааліцыйнага ўраду. Вы ж да гэтага аднесьліся ня вызначана...**

- Я выступаю за законныя пераўтварэньні. Калі законна будзе створаны кааліцыйны ўрад, то тады можна будзе гаварыць і аб гэтай прапанове.

Тады ня бачыў магчымасьці стварэньня такога ўраду. Ды й цяпер таксама. Таму, думаецца, лепш было б дабівацца ад кіраўнікоў Савета Міністраў іх згоды на перамовы з рознымі палітычнымі сіламі аб шляхах вываду эканомікі з крызысу.

**- Тым ня менш, вы падтрымалі палітычны страйк і нават выступілі ў Менску на пляцы Незалежнасьці.**

- Які гэта страйк? Амаль ўсе прадпрыемствы й так не працуюць. Проста гэта былі мітынгі пратэсту. Мы ў Маладэчна таксама правялі такі мітынг. Людзям надакучыла чакаць абяцаных перамен. Пара ўжо праводзіць рэформы ў эканоміцы на справе, а не на словах.

**- Пасьля таго выступу на мітынгу пайшлі размовы, што Карпенка замазаў сябе сувязямі з БНФ. Як вы да гэтага ставіцеся?**

-А ніяк. Што значыць "замазаў"? Я зрабіў тое, што лічыў неабходным, прыйшоў на мітынг і выказаў свае думкі наконт цяперашняй сытуацыі. А казаў я, як вы памятаеце, што ў нас няма канфрантацыі, аб чым увесь час гавораць урадавыя чыноўнікі і іх людзі. Проста кіраўніцтва дзяржавы не змагло прыняць эфэктыўных мер, каб вывесьці эканоміку з крызысу, і давяло народ да такога цяжкага становішча.

**- Генадзь Дзьмітрыевіч, дык у чым, па вашаму, прычына сёньняшняга эканамічнага й палітычнага крызысу ў краіне?**

- Перш за ўсё, у тым, што ня дзейнічае мэханізм выканаўчай улады зьверху да нізу. Я, напрыклад, працуючы тры гады мэрам Маладэчна, ні разу не трымаў справаздачу ў аблвыканкаме. Усе ідэі на інфармацыйным узроўні. Таму цяпер вельмі неабходна выканаўчая дысцыпліна.

**- Вы выступаеце за моцную руку?**

- Я выступаю за разумныя меры. А без дысцыпліны нічога ня зможаш зрабіць.

**- Сёньня становішча Беларусі вельмі ня вызначанае. Гавораць аб рублёвай зоне, аб эканамічным саюзе, аб многім іншым, але ніхто ня ведае, што будзе заўтра. Што, на вашу думку, трэба прадпрымаць?**

- Яшчэ ў 1991 годзе я гаварыў, што няма больш важнай справы для нашага ўраду, чым аднаўленьне сувязяў з рэспублікамі былога СССР. Зразумейце, я не за колішні Саюз, але мы ня можам цяпер выжыць бяз былых брацкіх суседзяў. Таму неабходны цывілізаваныя эканамічныя сувязі. Але іх няма. Сёньня нас кормяць абяцаньнямі аб рублёвай зоне, аб якой ніхто ня мае ніякага ўяўленьня. Тых, хто спрабуе разабрацца, што гэта такое, абвінавачваюць у спробе сарваць стварэньне эканамічнага саюза. Сьмешна слухаць нашых кіраўнікоў, якія першымі выйшлі з рублёвай зоны, увёўшы "зайцоў", першымі пачалі ствараць мытныя перашкоды і паставілі свае подпісы пад белавежскімі пагадненьнямі. Перамовы аб аб'яднаньні грашовых сыстэм Беларусі й Расеі лічу проста марнаваньнем часу. Так, можна аб'ядноўвацца, але не такім чынам. За ўзор варта ўзяць аб'яднаньне грашовых сыстэм ЗША й Канады, дзе разьлікі адбываюцца на аснове нэйтральнай грашовай адзінкі. Мы ж кідаемся да калектыўнай бясьпекі, потым рублёвай зоны... Усё балбочам, а нічога ня робім. Гэта яшчэ адна з прычын эканамічнага крызысу.

Упушчана вельмі шмат часу. І праводзіць эканамічныя рэформы без абмежаваньня сацыяльных праграм сёньня нельга. Таму сацыяльна абараняць варта толькі тых, хто ня можа гэта зрабіць сам, - пэнсіянэраў, інвалідаў... Астатнім неабходна ствараць умовы для самастойнага заробку грошай. Тут размова ідзе і аб падтрымцы малога бізнэсу, і аб пераразьмеркаваньні працоўных рэсурсаў, і аб стварэньні новых рабочых месцаў...

Неабходна падтрымаць сельскую гаспадарку, інакш мы застанемся без харчаваньня. Але нельга ўсё зводзіць да простага ўліваньня наймавернай колькасьці грашовых сродкаў, якія потым праядаюцца... Варта праводзіць акцыяніраваньне і разбуйненьне стратных калгасаў і саўгасаў, стварэньне і забесьпячэньне нармальных умоў фэрмэрскім гаспадаркам, устанаўленьне парытэтных цэн на сельгаспрадукцыю.

Неабходна тэрмінова вызначыць прыярытэтныя галіны ў прамысловасьці. Сёньня мы фінансуем літаральна ўсю вытворчасьць. І не глядзім, што некаторыя яе віды стратныя ці ўвогуле не патрэбныя Беларусі. Пара вызначыцца і не растрачваць дарма грошы, якія пад нагамі не валяюцца. І ў гэтыя прыярытэтныя галіны трэба накіраваць асноўныя сродкі, каб потым атрымаць добрую аддачу. Такім чынам, мы зможам паставіць на ногі нашу эканоміку.

Але хто будзе ўкладваць сродкі, дзе іх узяць? Зразумела, банкі. Аднак што у нас за банкі? Акрамя Ашчаднага ды Аграпрамбанка, усе астатнія вельмі дробныя й ня могуць уплываць на разьвіцьцё беларускай эканомікі. Хоць некаторыя нашы чыноўнікі крычаць, што мы ў разьвіцьці банкаўскай сыстэмы выйшлі на эўрапэйскі ўзровень. Бачыце: створана два дзесяткі банкаў! Не, гэтыя ўстановы таксама маюць вострую патрэбу ў дапамозе, а бяз іх мы ня выжывем.

І, я ўжо гаварыў аб гэтым, неабходна ўсталёўваць эканамічныя сувязі з краінамі былога СССР.

Гэта першачарговыя меры.

**- Вы нічога не ўспомнілі аб прыватызацыі дзяржаўнай маёмасьці. А менавіта ў Маладэчна гэты працэс ідзе найбольш удала.**

- Прыватызацыя і раздзяржаўленьне ўласнасьці павінны праходзіць пастаянна. Тут таксама ўпушчаны час. Мы гаварылі: давайце ня будзем праводзіць прыватызацыю, як і іншыя эканамічныя экспэрымэнты, адразу на тэрыторыі ўсёй краіны, давайце гэта апрабуем ў адным рэгіёне. Прапаноўвалі ў Маладэчна. Але нас ніхто ня слухаў. Мы ж у сябе ў горадзе сутыкнуліся з вялікімі праблемамі. Сёньня рэстаран каштуе каля паўтара мільярда рублёў. Ці выкупяць яго афіцыянтачкі за сваю зарплату? Не. Ён застанецца чужым людзям, у якіх шмат грошай. А як прыватызоўваць гіганты, МАЗ, напрыклад? Дзяржаве трэба мець на МАЗе свае акцыі? Трэба. Значыць, працэнтаў 30 аддаем ёй. Працоўны калектыў таксама павінен мець сваю долю, кіраўніцтва - таксама. На свабодны продаж неабходна выкінуць акцыі. МАЗ атрымоўвае сыравіну й камплектуючыя дэталі з розных прадпрыемстваў, у тым ліку і з-за мяжы. І яны захочуць мець акцыі. Акрамя таго, запатрабуюць сваю долю й тыя, хто займаецца збытам прадукцыі, бо аўтамабілі МАЗа ня вельмі карыстаюцца попытам за межамі Беларусі, і на замежны рынак, дзе існуе жорсткая канкурэнцыя, іх ніхто ня пусьціць. Атрымліваецца, што МАЗ прыватызуе не сам працоўны калектыў, а іншыя. І вельмі шмат акцый стануць мець замежнікі, ад якіх аб'яднаньне вельмі залежыць цяпер. Так мы распрададзім усю Беларусь.

Таму неабходна ўсё дасканала абдумаць.

**- Генадзь Дзьмітрыевіч, а хто можа праводзіць эканамічныя рэформы? Ці ёсьць такія сілы, якія б змаглі ўсё гэта ажыцьцявіць? Можа, за гэта возьмецца ваша партыя Народнай згоды?**

- Наша партыя налічвае каля трох тысяч чалавек у 50 гарадах і раёнах. Цяпер заканчваецца арганізацыйны працэс. Пярвічныя ячэйкі створаны ва ўсіх вобласьцях. У партыю ўваходзяць у асноўным інтэлігенцыя й прадпрымальнікі. Мы займаем цэнтрысцкую пазыцыю, наша праграма - гэта праграма сацыял-дэмакратычнай арганізацыі. Думаю, што ў будучым цяперашнія карлікавыя партыі аб'яднаюцца.

**- Вы дапускаеце, што партыя Народнай згоды аб'яднаецца з Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамадой?**

- А чаму б і не? У нас шмат агульнага ў праграмах. Мы вядзем перамовы аб супрацоўніцтве з партыяй Беларускі навукова-вытворчы кангрэс. Зразумела, сілы ў партыях малыя, таму варта выступаць адным блёкам.

У Беларусі ёсьць шмат людзей, якім можна даверыць сур'ёзныя справы. Нават у тым жа ўрадзе, які дэскрыдытаваў сябе. Ды і ў нашай партыі ёсьць нямала тых, хто можа сур'ёзна і плённа працаваць на самых высокіх пасадах. Але сабраць моцную каманду можна толькі пасьля перамогі дэмакратычных сіл на выбарах і прэзыдэнцкіх, і парлямэнцкіх.

**- Ці будзеце вы ўдзельнічаць у прэзыдэнцкіх выбарах?**

- Усё будзе залежыць ад таго, якія палітычныя сілы падтрымаюць мяне, а таксама ад канкрэтнай сытуацыі. Удзельнічаць дзеля аднаго ўдзелу не хачу.

**- Зьдзіўляе пазыцыя вашага намесьніка па партыі й па гарвыканкаму Віктара Ганчара. Раней песьні сьпявалі дуэтам Карпенка - Ганчар. А сёньня, відаць, дуэт распаўся. Віктар Ганчар зрабіў стаўку на Аляксандра Лукашэнку.**

- Удзел Віктара Ганчара ў адстаўцы Станіслава Шушкевіча мы ў сябе ў партыі расцанілі як яго палітычную памылку. А далейшае ня хочацца камэнтаваць. Не прыгожа атрымліваецца.

**- Але ж вы самі выступалі супраць Станіслава Шушкевіча...**

- Адстаўка Станіслава Шушкевіча заканамерная. Увесь час заклікаць да згоды і нічога не рабіць? "У мяне няма паўнамоцтваў..." Хоць раз на трыбуну выйшаў, папрасіў іх? Не, бо баяўся, што дадуць, а што з імі рабіць тады - ня ведаў. Не падабраў нават сабе каманду за час працы ў Вярхоўным Савеце. Што тады гаварыць?..

**- А ў вас ёсьць каманда?**

- У Маладэчна ёсьць, у партыі таксама. Увогуле, сабраць каманду - адна з галоўных задач, калі не самая галоўная. Я працую з рознымі людзьмі, і па характару, і па ідэйнаму сьветапогляду. Галоўны крытэрый - дзелавыя якасьці й сумленьні.

**- Нядаўна вас выбралі членам-карэспандэнтам нацыянальнай Акадэміі навук. За якія дасягненьні?**

- Навуку я не пакідаў ніколі. І калі працаваў дырэктарам Маладэчанскага завода парашковай мэталюргіі, і калі мяне абралі дэпутатам, і я пайшоў у палітыку. У мяне каля 50 аўтарскіх пасьведчаньняў па адкрыцьці ў галіне вакуумнай тэхнікі й тэхналёгіі. Мае навуковыя распрацоўкі ўкаранёныя ў Нямеччыне, Балгарыі, Польшчы, Індыі, Югаславіі, Вугоршчыне. Цяпер займаюся стварэньнем навуковых цэнтраў, распрацоўкамі, якія б непасрэдна ўкараняліся ў вытворчасьць.

**- Да таго ж вы і арбітр нацыянальнай катэгорыі па футболу...**

- Так, раней судзіў футбольныя матчы. Але са мной паступілі несправядліва футбольныя функцыянэры. Таму пакінуў судзейства. Цяпер выходжу на футбольнае поле падчас сьвяточных матчаў як вясельны генэрал.

**- Як вам толькі хапае часу на ўсё?**

- Забыўся, што такое выхадныя. Пакуль малады быў, хацелася больш зрабіць, а цяпер такія нагрузкі ўвайшлі ў звычку. Думаю, наперадзе працы ня менш.

**Гутарыў Уладзімір АБРАМОВІЧ.**

## НАШЧАДКІ ПАЛІТЫКІ ХАДЖЫ НАСРЭДЗІНА

Шмат думак ёсьць аб тым, якой палітыкі прытрымліваецца беларускі ўрад. Гавораць, што ня мае палітыка гэтага ўраду аналягаў. Не, паважаныя. Гістарычны аналяг ёсьць. У свой час палітыкі, якую праводзіць існуючая ўлада да свайго народа, прытрымліваўся Хаджа Насрэдзін у адносінах да свайго асла.

Ён вырашыў аднойчы правесьці экспэрымэнт і прывучыць бязмоўную жывёліну як мага меней есьці. Кожны дзень ён даваў ёй усё менш і менш ежы. І вось, нарэшце, прыйшоў дзень, калі Хаджа не павінен быў ужо зусім карміць свайго каханага. Прыйшоў у хлеў, а асёл ужо й капыты адкінуў.

- О, алах,- усклікнуў Хаджа,- паглядзі на гэта няўдзячнае быдла! Я яго амаль прывучыў ня есьці, а ён, безсаромны, іздох!

Вопыт Насрэдзіна ня ўдаўся хутчэй за ўсё таму, што быў зроблены над адной асобна ўзятай жывёлай. У распараджэньні ж нашага кіраўніцтва - 10 мільёнаў. Аб'яднаньне грашовых сыстэм - яшчэ адзін крок у правядзеньні гэтага экспэрымэнта. Можа, хто й застанецца жывы. Але ж вельмі б не хацелася падзяліць лёс асла.

**І.Р.**

## ГРАМАДЗТВА

### ПРА АДУКАЦЫЮ, ВЫХАВАНЬНЕ Й РАЗБУРАЛЬНЫЯ ПРАЦЭСЫ

Тое, што злачыннасьць значна ўзрастае ў асяроддзі падлеткаў, - вядома. Таму, калі йшоў на прэсканфэрэнцыю, прысьвечаную праблемам выхаваньня й адукацыі моладзі, якую ладзіла ў гарадзенскім аблвыканкаме ваблано, думаў, што пачую аб канкрэтных шляхах паляпшэньня становішча.

Начальнік упраўленьня адукацыі аблвыканкама А.С.Саўчык распачаў чамусьці свой выступ не з абмеркаваньня гэтай надзённай праблемы, а пачаў скардзіцца на нейкія разбуральныя працэсы, якія, са слоў выступаючага, распачаліся з развалу Саюза. Праўда, што гэта за разбуральныя працэсы, спадар Саўчык не згадаў. Прыйшлося ўдакладняць. Далей Аляксей Сямёнавіч распавёў пра станаўленьне нацыянальнай беларускай школы. Але многім, асабліва тым, чые выданьні дагэтуль рускамоўныя, такое было не да густу. Рэдактар сучаснай камсамольскай газэты “Маладзёжны кур’ер” нагадала пра “рускоязычную” нацыю, якая патрабуе будовы новых школаў з рускамоўным выкладаньнем. Давялося Аляксею Сямёнавічу даваць тлумачэньне, што ў Горадні 2,4% рускамоўных школ, 24,7% - са зьмешанай сыстэмай навучаньня. Гэтага, па словах дакладчыка, нават занадта. Распытаў пра праблемы будаваньня дзьвюх польскіх школаў на Гарадзеншчыне рэдактар польскай газэты “Глос з-над Нёмна” Яўген Скрабоцкі. Вось тут і ўсчаўся вэрхал. Бедалага рэдактар быў чамусьці абвінавачаны ва ўсім сваімі ж калегамі. А асноўнай бядой спадара Яўгена было тое, што ён замнога хоча - усяго дзьве школкі ў Горадні ды Ваўкавыску. Не прамінулі калегі згадаць і пра адпачынак нашых дзетак у Польшчы, паставіўшы ў віну Скрабоцкаму тое, што да Польшчы едуць толькі дзеткі з польскіх сямей на Гарадзеншчыне. Насілу змог спыніць арганізатар прэсканфэрэнцыі не на жарт усхваляваных журналістаў.

Была яшчэ прамова пра рэальныя класы, дэфірэнцыраванае навучаньне, пра конкурсны адбор да клясаў са спэцыялізаваным навучаньнем. Пра самае галоўнае, культурнае выхаваньне, гамана бадай не вялася. Праўда, успомнілі пра пачатковую ваенную падрыхтоўку, пра пазакласныя заняткі як панацэю па зьніжэньню дзіцячай злачыннасьці. На тым і разышліся.

**Г.ДАМІНІКАНСКІ.**

### КААРДЫНАЦЫЯ Й ІНШАЕ

По дадзеных статыстыкі на пастаяннае месца жыхарства ў Берасьцейскую вобласьць у 1993 годзе пераехала звыш 45 тысяч чалавек.

* * *

У Берасьці заснавана вабласное аддзяленьне Асацыяцыі палітычных навук. Сярод задач новага аб’яднаньня: абарона прафэсійных інтарэсаў, каардынацыя дзейнасьці (у тым ліку й з замежнымі калегамі), правядзеньне канфэрэнцый, садзейнічаньне ў інфармаваньні насельніцтва й іншае.

Членамі Асацыяцыі могуць быць ня толькі грамадазнаўцы, а і простыя грамадзяне, якія цікавяцца палітыкай.

Аргфункцыі ўскладзены на загадчыка кафэдрай паліталёгіі, сацыялёгіі й права Берасьцейскага пэдінстытута Уладзіміра Каклюхіна.

**(Па матэрыялах газэты “Берасьцейскі кур’ер”).**

### ЁСЬЦЬ ПЭРСПЭКТЫВЫ

Больш за паўгады працуе ў Талінскім марскім порце на ачыстцы трумаў караблёў ад мэталёвых рэшткаў брыгада гарадзенцаў. Працуе вартавым мэтадам.

Нядаўна хлопцы вярнуліся на пабыўку ў Горадню. Карэспандэнт “Пагоні” сустрэўся з брыгадзірам гарадзенцаў С.Лаўнікам, распытаў яго пра ўмовы працы, жытла, узровень зарплаты.

- У Таліне жывем у гатэлі за кошт фірмы. Працуем 12-14 гадзін у дзьве зьмены. Праезд на працу таксама за кошт фірмы. Камандыровачныя - 70 даляраў ЗША на месяц. Заробак прыкладна 600-800 даляраў ЗША ў адну вахту.

Праца цяжкая, але на Беларусі нічога падобнага няма. Мы ў пашане ў адміністрацыі порту. Ім за гонар рамантаваць у сваіх доках дацкія, нямецкія, швэдзкія, ангельскія й расейскія караблі... Эканамічная абстаноўка ў Эстоніі стабільная. Ёсьць пэрспэктывы застацца тут надоўга.

**Распытваў Г.АСТРОЎСКІ.**

# ГАРАДЗЕНСКІЯ ІМПРЭСІІ

У Горадні я ня быў амаль год. Калі прыяжджаеш у знаёмы табе горад пасьля доўгага перапынку, то глядзіш на некаторыя рэчы крыху інакш, ды й перамены адразу ж кідаюцца ў вочы.

Цягнік з Вільні прыйшоў дакладна апоўначы. Аніякіх там плюс-мінус некалькі хвілін. На аўтобусным прыпынку ніхто не затрымліваецца (зрэшты, і людзей прыехала няшмат). Чуў, чытаў, што з палівам крыху мортус. Доўга ня думаючы, пашыбаваў на тралейбусны прыпынак, тым больш што ў цягніку крыху зьмерз і хацелася сагрэцца.

Першае, што адзначыў (ня ведаю нават, ці то з прыемнасьцю, ці больш са зьдзіўленьнем), што а такой позьняй гадзіне горад ня быў бязьлюдны, трапілася нават дзьве пары закаханых. А на прыпынку і ўвогуле было, па віленскіх паняцьцях, шматлюдна, ня кажучы ўжо пра тое, што тралейбусы - зноў жа прыкладаючы віленскую мерку - былі перапоўненыя. Не баяцца, значыць, людзі паказвацца апоўначы на вуліцы, хаця...

Хаця здараецца ўсякае. Наступны дзень. Пярэсялка. Кнігарня адчыняецца за хвілін 5-7. Стаю, палю, чакаю. Падыходзіць сярэдняга ўзросту мужчына.Просіць агеньчыку. Пакурвае й гаворыць, што вось так і бывае: ёсьць папяросы - няма сернікаў, ёсьць запалкі - дык часам трэба цыгарэтку стрэльнуць. Еду вось, гаворыць, па газэты, павінны ўжо, напэўна, быць. У аптэку трэба зайсьці. Тыдзень таму пабілі мяне. Спаткалі й пабілі ні за што, ні пра што. Грошы забралі. Але грошы - ліха з імі. Галава вось кружыцца, заносіць часам, бы п’янага, на бакі.

Я паспачуваў мужчыне, той яшчэ раз падзякаваў за агеньчык і зьнік так жа незаўважна, як і зьявіўся. А я ў каторы ўжо раз лаўлю сябе на думцы, што людзі тут адкрытыя, сардэчныя, непасрэдныя і, напэўна, такім людзям лягчэй жыць, ды й наваколлю перадаецца гэтая непасрэднасьць.

Не магу сабе ўявіць, каб у нас у Вільні зайшла ў тралейбус групка студэнтаў і нехта з іх на ўвесь салён запытаў, хто б гэта мог прадаць білет, а то і ўвесь праязьдны. У тралейбусе паўстае рух, пасыпаліся жарты, менш ці больш удалыя, і ўся гэтая перакіданка адбываецца зычліва, з гумаркам. Ці хоча чалавек, ці ня хоча, але яго падхоплівае гэты настрой. Здараюцца, безумоўна, і іншыя, зласьлівыя размовы, але яны, як правіла, хутка заціхаюць, бо зноў жа нехта зусім староньні разладоўвае атмасфэру дасьціпным слаўцом.

Паколькі я затрымаўся ў тралейбусе, дык яшчэ адзін абразок, падгледжаны й падслуханы ў ім. Дзяўчына й хлопец. Вучыліся, відаць, разам у школе, даўно ня бачыліся й, як заўжды ў такіх выпадках, традыцыйныя патаньні: што, дзе, як? “Я вучуся ў Менску,- гаворыць хлопец,- у тэатральным”. “А я дык на мясцовай філялёгіі,”- падхоплівае дзяўчына. “На беларускай?”- пытае яе спадарожнік. “Ты што!”- абураецца дзяўчына. Уражаньне такое, быццам пакрыўдзілі яе на ўсё жыцьцё. Ня мушу, відаць, падкрэсьліць, што гутарка адбывалася па-расейску. З мяккім беларускім акцэнтам.

А ўвогуле трэба зазначыць, што гэтым разам беларускую мову я чуў у Горадні значна часьцей, хаця адносіны да яе не заўсёды адназначныя.

Крама. Жонка разглядае адзеньне, ці то трэба, ці ня трэба, але ж цікава як любой кабеце. Я стаю недалёка, крыху нуджуся, разглядаю людзей. Побач нешта выбіраюць дзьве дзяўчыны. Гутараць па-расейску. Прыходзіць маладая мама з пяцігадовым, прыкладна, сынком. “Глядзі, глядзі, які блакітны плашч, які блакітны!”- ляпеча чыста па-беларуску малы, быццам убачыў нешта незвычайнае. “Блакітны, блакітны,”- перадражнівае яго адна з дзяўчын.

Я, адносячы сябе да людзей талерантных, не магу зразумець зьнешне сымпатычнай, але ўнутрана вельмі ўжо брыдкай дзяўчыны.

Падобныя адносіны заўважыў ня толькі ў дачыненьні да беларушчыны.

Таксама крама. Размаўляем з жонкай на сваёй мове - па-польску. “Разговаривают здесь по-всякому,”- кажа адна прадаўшчыца другой. Не рэагую зазвычай хваравіта на падобныя пэрлы, аднак тут ня стрымаўся. “Прабачце, але ж я не з вамі размаўляю,”- гавару ёй па-беларуску. Атаропела на момант і... ня мела што адказаць.

Хоць і паволі, але беларуская мова прабівае сабе дарогу. Шыльды, надпісы (тут, праўда, ня ўсё ў парадку. Напрыклад, чаму замест стылістычна няправільнага “Вадзіцель выконвае продаж білетаў” не сказаць зграбна, па-людзку:"Вадзіцель прадае"?), спарадычная гаворка на вуліцы - усё гэта сьведчыць пра павольнае ламаньне моўных бар’ераў. Усюды я стараўся гаварыць па-беларуску й амаль усюды атрымоўваў адказ па-расейску. І прыйшоў да высновы (можа, памыляюся), што людзі проста саромеюцца гаварыць па-беларуску. Тады паўстае пытаньне - чаму? Не магу знайсьці адказу.

Ведаю горад даволі добра, аднак часам трэба й запытацца, каб ня блудзіць доўга, асабліва калі няма шмат часу. Калі нехта таксама ня вельмі добра ведае, як лепш вытлумачыць, дык, глядзіш, падыходзіць нехта іншы, а калі так запытаеш на прыпынку - дык і ўвогуе завязваецца дыскусія, аж становіцца неяк няёмка. І адначасова прыемна. Ловіш сябе на думцы, што гэта ж, відаць, наша мясцовая мэнтальнасьць - адкрытасьць, сардэчнасьць, вера ў дабрыню кожнага чалавека.

Бываюць выняткі, скажаце. Згодны.

Чакаем цягніка. Жонка засталася ўнутры вакзала з маім заплечнікам, поўным кніжак, і сваёй торбай са слоікам сьмятаны, кілям сьвініны і іншымі дробязямі накшталт чырвонага молатага перцу й памаранчавага жэле, а я выйшаў закурыць. На вуліцы ні то дождж, ні то сьнег, адным словам непрыемныя ападкі. Дык і стаю сабе ў даволі шырокім, своеасаблівым тамбуры паміж дзьвярыма ў залу й на вуліцу. Праходзіць міліцыянт - статны хлопец у ладна падагнанай форме. Ён ня вельмі ласкава паглядзеў на мяне і ўжо куды ня міла прымусіў мяне адчуць, што я маю дачыненьні з уладай. “Ня бачыш ці што - курыць нельга. На вуліцу!”- скамандаваў ён. Ня мела сэнсу тлумачыць, што я сапраўды не заўважыў у пацёмках маленькую шыльдачку. Я быў цалкам згодзен, што парушыў устаноўлены парадак, і ціха выйшаў, але нейкі час унутры ў мяне нешта калаціласа, хаця я дакладна ведаў, што хамства - яно заўсёды хамства.

Гэтае непрыемнае ўражаньне неяк адразу зьнікла, калі я пачуў аб’яву па-беларуску:"Цягнік з Ваўкавыска прыбывае..."

**Уладзіслаў СТРУМІЛА.**

# ЯК ЗАПАМЯТАВАЛІ ПРА КЛЯТВУ ГІПАКРАТА

У стацыянары ТМА-1 Станіслаў Раманавіч Броніч праляжаў 16 дзён. Самаадчуваньне было выдатнае. Станіслаў Раманавіч зьвярнуўся да лекара Гардзеева з просьбай аб выпісцы. Той пагадзіўся й прапанаваў некалькі ўколаў для падмацаваньня. Пасьля дзьвюх ін’екцый у суставў левай нагі й адной - у суставў правай самаадчуваньне Броніча значна пагоршылася. Па ўсяму целу пайшла сьвярбючая высыпка. На гэта ніхто не зьвярнуў належнай увагі, і хворага выпісалі.

Прапакутаваўшы дома некалькі дзён, Станіслаў Раманавіч пачаў прасіцца наноў да шпіталю. Затэлефанаваў лекару, той паабяцаў дапамагчы, але папрасіў патрываць дзень-другі, бо ў шпіталі няма месцаў. Броніч прасіўся, каб яго паклалі хоць на карыдоры, бо не стае сілы трываць боль. Лекар не пажадаў слухаць Станіслава Раманавіча й націскаў на сваё.

Калі ва ўмоўлены тэрмін хворы прыйшоў да шпіталю, то высьветлілася, што ягоны лекар ад’ехаў у каманьдзіроўку. Назаўтра Броніч прыйшоў паўторна, але яму згадалі прыйсьці пазьней. Тры дні пошукаў лекара Гардзеева былі бязвыніковымі, а хвароба, між тым, прагрэсавала. Нарэшце адміністрацыя ТМА накіравала хворага ў скураны дыспансэр на прыём да лекара Сідарава. Там Броніч паставілі дыягназ - чырвоная ваўчанка. Пасьля лекаў у скураным дыспансэры Броніч адчуў сябе лепей. Але занепакоіла сэрца. Давялося легчы на 24 дні да кардыялёгіі. Толькі падлекавалася сэрца, як ізноў успыхнула алергія. Броніч лягае ў скураны дыспансэр, зноў на 24 дні. Усяго Станіславу Раманавічу давялося ляжаць у шпіталі 5 разоў. Аднак вылекавацца так і не ўдалося. Ад яго пачалі адбівацца, як ад назойлівай мухі.

Каб знайсьці праўду, Броніч падаў на лекара ў суд. Сьледчы В.В.Тараньцей браў лекавую картку хворага, дасылаў яе на рэспубліканскую экспэртызу. Экспэртыза прызнала, што лекі, якія атрымоўваў хворы, былі адпаведныя.

Вось фактычна і ўсё. Але ёсьць некалькі пытаньняў, на якія патрэбны дакладны адказ. Чаму ад хворага чалавека, якому па ініцыятыве лекара ўведзены дадатковыя агульнаўзмацняльныя лекі, паўсюдна адмаўляюць? Чаму сам лекар Гардзееў пазьбягае хворага? Чаму сьледчы Тараньцей пад асабістую распіску забірае картку хворага й адсылае яе на экспэртызу да Менску? Чаму на экспэртызу не адасланы сам хворы?

У тэлефоннай размове сьледчы згадаў так:"Мы высьвятлялі толькі адпаведнасьць дакладнасьці прызначэньня лекаў". Цікава, што больш скажа: сухі мэдыцынскі запіс на паперцы ці жывы чалавек? Турбуе яшчэ й тое, што Станіслаў Раманавіч Броніч сцьвярджае, што лекар Гардзееў сваім учынкам адпомсьціў яму за нейкія ранейшыя крыўды. Я размаўляў з многімі навукоўцамі, лекарамі - усе яны лічаць выпадак з С.Р.Бронічам індывідуальнай рэакцыяй арганізма на лекі. Як кажуць, тысячы - добра, а аднаму - дрэнна. Калі гэта так, дык чаму маўчыць вучоны савет Гарадзенскага мэдыцынскага інстытута? Менавіта яму належыць узяць ініцыятыву ў свае рукі й вылекаваць хворага, бо на карту пастаўлены прэстыж гэтай установы. Нават калі й гэта не галоўнае, то лекару Гардзееву й яго калегам трэба помніць пра клятву Гіпакрата.

А пакуль навукоўцы мэдінстытута маўчаць, С.Р.Броніч наважыўся зьвярнуцца ў вабласны суд з надзеяй, што хоць там .зможа знайсьці праўду.

**Г.АСТРОЎСКІ.**





ЭКАНОМІКА

# МФК ПРАПАНУЕ ЦЫВІЛІЗАВАНУЮ ПРЫВАТЫЗАЦЫЮ

**Гарадзенскімі гарадзкім і вабласным выканкамамі падпісана дамова з Міжнароднай Фінансавай Карпарацыяй аб супрацоўніцтве ў пытаньнях малой прыватызацыі. Прапануем вашай увазе гутарку нашага ўласнага карэспандэнта з прадстаўніком МФК Яраславам Мальцам, польскім фінансістам, прыехаўшым у наш горад з групай сваіх калегаў, якія прадстаўляюць розныя краіны сьвету.**

**- Пан Яраслаў, у чым сутнасьць тае праграмы, якую прапаноўвае МФК нашаму гораду?**

- Наша праграма - гэта развіцьцё малой прыватызацыі:гандлю, прадпрыемстваў грамадзкага харчаваньня й паслугаў на аукцыённай аснове. У нас існуе каля шаснаццаці прынцыпаў, якімі мы карыстаемся ў ходзе прыватызацыі, каб рабіць гэты працэс адкрытым. Мы раім праводзіць адкрытыя аукцыёны як адну з галоўных формаў прыватызацыі, паколькі ў іх могуць браць удзел усе жадаючыя. Акрамя таго, дзякуючы адкрытасьці, цяжка будзе потым каго-небудзь вінаваціць у тым, што замест прыватызацыі адбывалася "прыхватызацыя". Мы хочам , каб гэты працэс быў выгадным ня толькі для прадаўцоў, але й для тых, хто рызыкуе ўкласьці свае гропы й стаць уласьнікам. Для гэтага, вядома, патрэбныя гарантыі.

Але зазначу, што наша роля ў гэтым працэсе толькі як дарадцаў.

**- Што вы наогул думаеце і можаце сказаць аб працэсе прыватызацыі ў Беларусі? Здаецца, МФК распачала сваю працу яшчэ год таму ў Берасьці й, напэўна, нейкі вопыт ужо ёсьць.**

- Так. У Берасьці мы пачалі работу ў траўні мінулага году. Прымянялі там вопыт Расеі й Украіны. Аднак выкарыстоўвалі яго ў суаднасінах з спэцыфічнымі ўмовамі Беларусі й, найперш, з заканадаўствам вашае краіны.

Былі, вядома, цяжкасьці, паколькі, калі мы пачалі там працаваць, яшчэ не было дзяржаўнай праграмы прыватызацыі. На жаль, яшчэ й сёньня не выйшлі прыватызацыйныя чэкі, не падрыхтаваныя падзаконныя акты, якія датычаць прыватызацыі.

Мы распачыналі з таго, што праводзілі дасьледаваньні грамадзкае думкі па гэтаму пытаньню і ў многіх людзей выявілі адмоўнае стаўленьне толькі з-за недахопу інфармацыі. Ужо напачатку красавіка ў Берасьці павінны адбыцца сэмінар для працоўных калектываў з мэтай давесьці іх правы й магчымасьці, а таксама далучыць іх да гэтага працэсу. У Беларусі, дарэчы, вельмі мала працоўных калектываў прымаюць удзел у прыватызацыі. Нам бы хацелася, каб іх было больш. Да прыкладу, у Расеі 50 працэнтаў усіх аб'ектаў малой прыватызацы было куплена працоўнымі калектывамі. Да таго, там і больш спрыяльныя ільготы для працоўных калектываў.

**- З чаго пачнецца ваша праца ў Горадні?**

- Пачынаць мы будзем з плана работы. Унясем свае прапановы па зьменах у гарадзкую праграму прыватызацыі, будзем займацца распрацоўкай неабходных мэханізмаў працэса, якія дазволяць зрабіць яго юрыдычна больш дасканалым і эканамічна стымулірoючым.

**- Напэўна, вам вядома, што ў Горадні ўжо зроблены першыя крокі прыватызацыі. Нядаўна адбыўся першы аукцыён па продажу камунальнай маёмасьці горада. Як вы ацэньваеце гэтыя пачынаньні?**

- Мы лічым, што ў Горадні ўжо шмат зроблена, й гэта вельмі цешыць. Аднак каб ісьці далей, патрэбна ўносіць неабходныя зьмены ў праграму. Да прыкладу: на аукцыёне прадавалі толькі асобныя будынкі, але ж іх ня вельмі шмат, а асноўная частка крамаў, як правіла, знаходзіцца на першым паверсе якога-небудзь жылога дома. Мы распрацавалі такі мэханізм, які прадугледжвае з уласьнікам шматгадовую дамову арэнды. Праўда, гэтая дамова - яшчэ не цалкам уласнасьць, аднак гэты мэханізм будзе распрацоўвацца намі далей.

**- Пан Яраслаў, за год працы ў Берасьці вам, напэўна, давялося сутыкнуцца з нашым чыноўніцтвам. Ці адпавядае іх узровень тым патрабаваньням, каб з імі можна было сапраўды не баяцца рабіць такую сур'ёзную справу?**

- Мы сапраўды сустракалі тут шмат розных людзей, і многіх з іх можна назваць сапраўднымі спэцыялістамі. Канешне, цяжка, каб усе адразу падчас такіх зьменаў у грамадзтве сталі высокакласнымі спэцыялістамі. Шмат хто яшчэ папросту не разумее рэформаў, а некаторыя баяцца браць на сябе такую адказнасьць. Добра вядома, што заўсёды меней рызыкуе той, хто нічога не робіць.

А што датычыць "чыноўнікаў" - я ведаю, што ў вас гэта ня вельмі добрае слова і, на мой погляд, яны мала чым адрозьніваюцца ад сваіх калегаў у Польшчы, Аўстрыі ці ў любой іншай краіне.

Гэты працэс, вядома, патрабуе новых людзей, але такіх, у якіх ужо ёсьць вопыт і якія разумеюць рэформы.

**- Колькі слоў аб тым, што сабой уяўляе МФК і якая роля ў ёй агэнцтва Злучаных Штатаў Амэрыкі?**

- Міжнародная Фінансавая Карпарацыя - гэта арганізацыя групы сусьветнага банка, якая займаецца падтрымкай і развіцьцём прыватнага сэктара ў сьвеце. МФК зьяўляецца найбуйнейшым у сьвеце інвэстарам. Яна ўкладвае гропы, якія атрымлівае ад сваіх членаў, у надзейныя праграмы прыватнага сэктару, дапамагае тэхнічна. Да прыкладу, сродкі, атрыманыя ад урада ЗША, якія ўкладваюцца ў Беларусь, у Расеі былі іншыя.

Канешне, МФК дапамагае толькі там, дзе ўпэўнена, што будуць станоўчыя вынікі. Беларусь зьяўляецца членам МФК і, вядома, мае права на дапамогу. Дарэчы, у склад МФК уваходзіць больш за сто краінаў сьвету.

**- Пан Яраслаў, вы прабылі ў нашым горадзе ўжо некалькі дзён і, напэўна, у вас скляліся нейкія ўражаньні...**

- Я не хачу пакрыўдзіць іншыя гарады Беларусі, але Горадня - гэта самы прыгожы з тых, якія я бачыў у вашай краіне. Я, канешне, ня быў тут яшчэ ўвесну, але спадзяюся, што ён будзе вельмі прыгожым. Тут шмат цікавых дамоў і вуліцаў. Калі нешта атрымаецца з нашае дапамогі, то думаю, што знойдуцца сродкі й на тое, каб падрэстаўраваць ваш прыгожы горад.

**- Дзякую за гутарку й жадаю посьпехаў.**

**М.КАРНЕВІЧ.**



**Антон Восіпавіч Кісель родам з вёскі Глушнява Гарадзенскага раёну, зараз жыве ў Горадні. Усё сваё жыцьцё ён вырабляе для сялян і проста ахвочых да вырабаў з лазы прыгожыя кошыкі. Вырабы Антона Восіпавіча здольныя вытрымаць любы груз.**

**У год ён вырабляе каля сотні такіх кашоў. Попыт вялікі, й да пэнсіі набягае да 500 тысячаў рублёў. Але ня гэта галоўнае. Найбольш прыемныя майстру павага й слава, якія адчуваюцца ў словах падзякі пакупнікоў.**

**Фатаграфаваў І.БАРЫСАЎ.**

# ЯК СУСТРАКАЮЦЬ ГАСЬЦЕЙ У ЛІДЗЕ

У Лідзе ў зале паседжаньняў гарвыканкама адбылося спатканьне групы дэпутатаў парлямэнта ў складзе А.Даўлюда, К.Рахаткі, А.Лукашэнкі, Д.Булахава, А.Лябедзькі з жыхарамі горада.

Першым з кароткай прамовай выступіў дэпутат ад горада Ліды А.Даўлюд і расказаў аб справах у парлямэнце й ягонай працы. Затым далі слова Лукашэнку, які на працягу амаль двух гадзін апавядаў, як ён змагаецца ў парлямэнце з карупцыяй, як ягоная група з дэпутатам Булахавым рыхтуюць справу ў суд на Кебіча за парушэньне Канстытуцыі РБ, якія неабходна прыняць меры, каб вывесьці рэспубліку з эканамічнага тупіка, у які завёў урад Кебіча, якія ён прыме меры ў гэтай справе, калі стане прэзыдэнтам нашай краіны, й адказаў на пытаньні.

Пасlаў і я Лукашэнку цыдулку наступнага зьместу:"Калі б на старшыню калгаса ці дырэктара саўгаса прыслалі з неба анёлка, то ён на працягу года-паўтара мусіў бы ператварыцца ў д'ябла карупцыянера, а йнакш заваліў бы гаспадарку па большасьці паказчыкаў, бо без карупцыі яму ўсюды ставілі б шпількі й палкі ў колы. Такіх не любілі й ён, застаючыся анёлам, мусіў бы альбо сам уцякаць з гэтай працы, альбо яго выгналі б з трэскам.

Падзяліцеся, калі ласка, сакрэтам, як Вам ўдалося на працягу многіх гадоў быць старшынёй калгаса (тут я памыліўся, бо трэба было дырэктарам саўгаса - С.У.) і заставацца ў баку ад карупцыі, ды яшчэ трапіць ў нардэпы".

Цыдулка атрымалася трохі задоўгая, але без кароткага ўступу не давала б поўнага разуменьня на пастаўленае ў канцы пытаньне. Лукашэнка, дачытаўшы яе да слоў "д'ябла-карупцыянера", штосьці замяўся й сказаў, што далей няма сэнсу чытаць, бо ён бачыць да яго пытаньня й адлажыў у бок, а мне падумалася, што, мусіць, ён, убачыўшы ў канцы сэнс пытаньня, вырашыў такім шляхам ад яго пазбавіцца, а мне ж так хацелася ведаць гэты ягоны "сакрэт".

Адказвалі на пытаньні дэпутаты Булахаў і Лябедзька. Слухачоў была поўная зала, у большасьці пэнсіянэры, ня раз гучалі й апладысмэнты. Як тут ня ўспомніць папярэдняе спатканьне з групай народных дэпутатаў у складзе Зянона Пазьняка, Юрыя Беленькага, Аляксандра Саснова, Леаніда Баршчэўскага й старшыні незалежнага прафсаюза Генадзя Быкава, якое адбылося напярэдадні.

Яны расказалі людзям у простай, зразумелай форме аб рабоце парлямэнту й іх адмоўных справах. Як там блакуюцца ўсялякія разумныя дэмакратычныя прапановы, пэрспэктыўныя й неадкладныя меры па вываду краіны з крызісу. Бездамылкова зпрагназавалі, што можа здарыцца з рэспублікай і яе сувэрэнітэтам ад бездаказных дзеяньняў урада.

Нягледзячы на ўсякія махінацыі, каб сарваць сустрэчу, народу сабралася шмат, і зала трэста N 19 усіх не змагла зьмясьціць. Служачыя з вялікай цікавасьцю слухалі дэпутатаў, і зал раз-пораз напаўняўся апладысмэнтамі. Але пакуль дайшло да гэтага спатканьня, чаго толькі не рабіла кіруючая намэнклятурная ўлада й некатарая частка пэнсіянэраў: адмова ў зале паседжаньняў гарвыканкама ў апошнія дні перад сустрэчай, зрываліся аб'явы па горадзе, на іх наклейваліся нейкія недарэчныя карыкатуры, дээінфармацыя па мясцоваму радыё аб тым, што спатканьне пераносіцца на іншыя дні, хаця радыё мясцовае ўжо не працавала працяглы час з-за адсутнасьці ліцэнзіі на гэта. Знайшліся адзінкавыя асобы, якія спрабавалі і ў зале перабіваць выступы дэпутатаў, але яны былі адразу стрыманыя астатнімі слухачамі. У зале ня было ніводнага міліцыянта, ды й сам старшыня гарвыканкама Малец не паказаў вачэй, хаця напачатку адобраваў гэтую сустрэчу, абяцаў залу гарвыканкама. Пазьней спадар Малец на пытаньне, чаму тады так рабілася, растлумачыў, што ва ўсім вінаватыя самі дэпутаты й тыя, хто ладзіў гэтую сустрэчу. Не захацеў старшыня гарвыканкама адкрыць людзям свайго "сакрэту", што ўсё залежыць ад таго, які палітычны кірунак прадстаўляе тая ці іншая група дэпутатаў, а ён дадаткова атрымае зьверху па тэлефоне, як у ранейшыя "добрыя часы", дырэктыву: шкодзіць ці падтрымліваць. Сустрэча б сакавіка рэзка зьнізіла ягоны аўтарытэт ў вачах жыхароў.

**С.УШАКЕВІЧ.**

# ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

Закон аб увядзеньні ў дзеяньне падатку на дабаўлены кошт (ПДК) з 1 траўня падпісаны Прэзыдэнтам Летувы А.Бразаўскасам. ПДК будуць у асноўным абкладацца ўсе тавары й паслугі, якія падлягаюць падаткаабкладаньню, а таксама ўвозімыя ў краіну. Да пачатку наступнага года ён не будзе прымяняцца да харчовых тавараў і камунальных паслуг, хоць яны складаюць больш за палову ўсіх тавараў народнага спажываньня ў Летуве. Жыхары краіны, гадавы прыбытак якіх складае менш за 5 тысяч літаў, ад выплаты ПДК вызваляюцца, а абавязаны выплочваць тыя, у каго ён перавышае гэтую суму. Мяркуецца, што ўвядзеньне ПДК на 1-2 % павялічыць прыбытак дзяржбюджэту.

*

Летувіскі ашчадбанк, віленскі "Літімпэкс", клайпэдзкі "Вакару банкас", ковенскі "Укебанкас" і "Вільняус банкас" аб'ядналіся ў інвэстыцыйную групу. Асноўная мэта гэтага саюза - прадастаўленьне замежным банкам гарантый, якія заахвочваюць інвэстыцыі ў гаспадарку Летувы. Банкаўская група акажа дапамогу ў вырашэньні праблем фінансаваньня найбольш важных аб'ектаў Летувы. Яна можа даць крэдыт, які прыкладна ў 5 разоў перавышае крэдыты асобных банкаў.

*

Спэцыяльная камісія , створаная згодна дэкрэту Прэзыдэнта Летувы А.Бразаўскаса, якую ўзначальвае старшыня Сэйма Ч.Юршэнас, прыняла рашэньне аб перавозцы ў канцы верасьня-пачатку кастрычніка з ЗША й перазахаваньні ў Летуве астанкаў трэцяга прэзыдэнта Летувіскай Рэспублікі Казіса Грыніюса. Цэрэмонія адбудзецца на яго радзіме - у вёсцы Монджгірыс Марыямпольскага раёна.

*

Французкі канцэрт "Renault" лічыць Летуву патэнцыяльным рынкам збыту сваіх аўтамабіляў. Фірма спадзяецца, што краіна "прыючыць" каля 70-80 тысяч аўтамашын розных мадэляў. Французкі бок вывучыў асаблівасьці разьвіцьця рынка, крытэрыі росту матэрыяльнага дабрабыту й колькасьць насельніцтва, і з 1 траўня фірма прапануе сваім кліентам усё, чым вядомая ў сьвеце.

*

Пастановай Урада Летувіскай Рэспублікі ўведзена абавязковае канваіраваньне праз тэрыторыю краіны аўтатранспартных сродкаў з грузамі медзі, ее сплавамі й алюмініем. З дапамогай паліцыянцкай аховы суправаджаюцца зараз таксама сьпіртныя напоі, тытунёвыя вырабы. Бо нярэдка на транспарт нападаюць рэкэціры, іншыя крымінагэнныя элемэнты, у выніку прадпрымальнікі нясуць вялікія страты.

*

З 1 траўня ў Летуве ўведзены новы парадак нашэньня агнястрэльнай зброі - яго могуць насіць усе асобы, пачынаючы з 25 гадоў. На на шэньне службовай маюць права члены Сэйма, Урада, работнікі Прэзыдэнтуры, канцылярыі, Канстытуцыйнага й Вярхоўнага Судоў, Летувіскага збройнага фонда, міністэрстваў і дэпартамэнтаў. Прэм'ер-міністр можа ўзнагароджваць людзей, якія адзначыліся перад Айчынай, імянной агнястрэльнай зброяй.

*

У першым квартале бягучага года інфляцыя (11,4%) значна ніжэй, чым за той жа перыяд летась (46,5%). Узровень беспрацоўя тры месяцы застаецца нязьменным - 1,4 працэнта. Рэалізацыя прамысловай прадукцыі ў сакавіку павялічылася ва ўсіх галінах апрацоўчай прамысловасьці, акрамя вытворчасьці машын, тэлевізараў і перапрацоўкі мэталаома. Цэны на прадукты харчаваньня павялічыліся на 3,9 працэнта.

*

У сховішчах Летувіскага банка знаходзіца 49 мільярдаў часовых грошай - талонаў. На паседжаньні ўрада прынята рашэньне аб яго зьнішчэньні. Ужо ліквідаваны "капеечныя" талоны, іх у абарачэньне было выпушчана на суму 5 мільёнаў.

*

Пасьля сёлетняй зімы дарожным упраўленьням краіны трэба аднавіць 60 тысяч кв. мэтраў дарожнага пакрыцьця, на што патрабуецца каля 16,6 мільёна літаў.

*

З 15 красавіка за ўезд у цэнтр Тракая вадзіцелі легкавікоў, матацыклаў і матароллераў у рабочыя дні плацяць 8 літаў, у сьвяты й дні адпачынку - удвая больш, вадзіцель аўтобуса - 16 і 24 літа адпаведна. Мэта гэтай меры - адмежаваць гістарычны запаведнік горада ад напліву турыстаў. Грошы пойдуць у бюджэт горада. Прадугледжаны некаторыя выключэньні.

*

Футбольны матч нацыянальных зборных Летувы й Ізраіля скончыўся нічым - 1:1, маладзёжных - з лікам 0:1 на карысьць ізраільцян.

**МГ-ЛР**

# ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

Пасьля сьвяточнага перапынку прафсаюз "Салідарнасьць" аднавіў забастовачныя акцыі па ўсёй краіне. У многіх рэгіёнах былі праведзены кароткія перадсьцерагальныя страйкі. Ужо ўзноўлены страйк і на мэталургічным камбінаце "Сталёва воля", рыхтуюцца забастоўкі на суднаверфях і шахтах.

*

Прэзыдэнт Л.Валэнса, які ўдзельнічаў у пасяджэньні ўрада, прысьвечанаму пытаньням бясьпекі, заявіў, што страйкі, асабліва ў стратэгічных галінах, ствараюць небясьпечную абстаноўку ў краіне. На яго думку, некаторым прафсаюзным дзеячам патрэбна ўсьвядоміць, што ня ўсе бастуюць і ня ўсе аплочваюць кошты страйку. Да таго, нельга дапусьціць, каб стратэгічныя элемэнты гаспадаркі былі паралізаваныя , бо гэта зьяўляецца небясьпечным для краіны, - падкрэсьліў прэзыдэнт.

*

Маршалак сэйма Ю.Алексі падчас сустрэчы з калектывам Варшаўскай фабрыкі легкавых аўтамабіляў крытычна ацаніў дзейнасьць "Салідарнасьці". "Не падтрымліваю саюза, які ставіць сабе за мэту зьвяржэньне ўраду. Гістарычныя заслугі "Салідарнасьці" вялікія , аднак абвяшчэньне генэральнай забастоўкі - гэта ва ўсім сьвеце крайнасьць. Ня думаю, што сытуацыя ў краіне абгрунтоўвала такую патрэбу," - заявіў маршалак. На яго думку, панацэя грамадзкай справядлівасьці было адкінута яшчэ чатыры гады таму. Толькі цяперашні ўрад намагаецца рэалізаваць іншую стратэгію.

*

Аб неабходнасьці абліягчэньня вяртаньня ў Польшчу ссыльных палякаў, якія зьвыш паўстагоддзя жывуць у Казахстане, гаварыў Зямбінскі, старшыня партыі Вернасьці Рэчы Паспалітай, на сустрэчы цэнтрысцкіх і правых груповак пасьля набажэнства 3 траўня ў Варшаўскім касьцёле Сьвятога Крыжа.

*

У царкве Сьвятой Багародзіцы ў Заблудаве адбыліся ўрачыстасьці ў гонар Сьвятога мучаніка Гаўрыіла, якія спалучаліся з малітвамі за Айчыну, і 203 угодкі Канстытуцыі. Набажэнства адправіў япіскап Вроцлаўскі і Шчэцінскі Ерэмія ў саслужэньні япіскапа Люблінскага й Холмскага Авіля і шматлікага духавенства.

*

Паліцыя арыштавала чатырох мужчын, якіх падазраюць у забойстве ў 1992 годзе былога прэм'ера ПНР П.Ярашэвіча й яго жонкі Аліцы. Падазроных у злачынстве затрымала спэцыяльная паліцэйская група.

**(Па матэрыялах польскага друку.)**

# ЛЕТУВА СТАНОВІЦЦА ЦЭНТРАМ АЎТАКАНТРАБАНДЫ

Аўтамабіляў, скрадзеных у краінах Захаду й зарэгістраваных у дарожнай паліцыі Летувы, больш за 800. Зараз яна не абвязана чакаць, пакуль з-за мяжы прыйдуць дакумэнты, што пацьвярджаюць зьнікненьне, таму рэгістроўваць машыны на выдадзеных за мяжой легалізаваных і часьцей падробленых дакумэнтах.

Старэйшы камісар упраўленьня крымінальнага вышуку МУС В.Гражыс лічыць, што скараціць колькасьць скрадзеных машын можна было б, наладзіўшы эфэктыўны кантроль на мяжы, больш надзейна абараніць дакумэнты ад падробкі й арганізаваць выдачу часовых дзяржнумароў на мяжы. Без пацьверджаньня з страхавых таварыстваў перасячэньне мяжы з такімі нумарамі забараніць.

Супрацоўнікамі крымінальнага вышуку былі затрыманы некалькі злачынных груп, што перапраўлялі скрадзеныя аўтамабілі праз Летуву. У час вышукаў было канфіскавана шмат чыстых дакумэнтаў, неабходных для легалізацыі аўтамабіляў. Аднак, па словах В.Гражыса, гэта дробязь у дзейнасьці злачынных груп.

Летась у краіне зарэгістравана 2812 адгонаў аўтамабіляў (у 1992 годзе - 1582). Каля 80 працэнтаў іх трапляе на Ўсход. Значная частка аўтамашын скрадаецца таксама ў Нямеччыне, Францыі й Швэцыі.

Крымінальная паліцыя мае паказаньні некалькіх чалавек аб заўчаснай дамоўленасьці па тэлефону з гарамадзянамі канкрэтнай краіны аб адгоне іх аўтамабіляў. Усе неабходныя дакумэнты падрабляюцца яшчэ ў Летуве, застаецца толькі паехаць і ўзяць машыну. У Летуве яны доўга не затрымліваюцца, у Латвіі й Эстоніі існуе больш просты й зручны парадак рэгістрацыі аўтамабіляў, таму іх пераганяюць туды, там рэгіструюць і ўжо з "чыстымі " дакумэнтамі гоняць далей на Ўкраіну, Беларусь, полдзень СНД, бо ў Расеі з лютага ўведзены высокія мытныя падаткі. Як ня дзіўна, па існуючаму крымінальнаму кодэксу асобы, што пераганяюць машыны, не прыцягваюцца да адказнасьці.

Двары камісарыятаў паліцыі ў Вільні й іншых гарадох застаўлены скрадзенымі на Захадзе аўтамабілямі. Іх больш за сотню. Пакуль няма міждзяржаўных дамоўленасьцяў, не вядома, што рабіць з 800-мі машынамі, што езьдзяць па дарогах краіны: як іх вярнуць уладальнікам, калі ў Летуве яны набытыя законным шляхам. Ня вельмі яны патрэбныя й ападнім, бо тыя атрымалі страхоўку, і, нягледзячы на павелічэньне страхавымі кампаніямі сумаў складак, страхаваць выгадна.

Не заўсёды сумленнымі бываюць і немцы: толькі каля трэці з 58 956 аўтамабіляў, што зьніклі летась, былі сапраўды адгнаныя.

"Працэнтаў 70 такіх крадзяжоў зьдзяйсьняецца з ведама ўладальнікаў. Яны за гэта атрымліваюць "камісійныя" - ад 3 да 15 тысяч марак",- сьцьвярджае перакупшчык Уолкер Грабер. Ужо два гады ён пастаўляе дарагія аўтамабілі тром бандам гандляроў, што дзейнічаюць у краінах Балтыі, Расеі. Толькі ў студзені ён з памагатымі з Рэйнскай і Рурскай вабласьцей перавёз з ведама ўладальнікаў 200 аўтамабіляў, у тым ліку й сапраўды скрадзеныя.

"Мы зараз ужо амаль не гандлюем незаконна набытымі аўтамабілямі,- кажа У.Грабер,- адны толькі пераробкі, асабліва падчыстка нумароў, каштуюць вельмі дорага. На мяжы ніякіх складанасьцяў няма, праўда, дадзеныя аб аўтамабілі й кіроўцы заносяцца ў кампутар, але арганізацыя плоціць мытнікам іх частку, і калі зьяўляюцца нашыя аўтамабілі, яны па дамоўленасьці закрываюць на гэта вочы."

Кожная такая паездка выгадная. На адным аўтамабілі Грабер, у залежнасьці ад мадэлі, зарабляе 7-15 тысяч марак. Дарагія нямецкія машыны, пажадана не старэй 2-ух гадоў (прабег не істотны - усё роўна таксомэтры пракручваюць), Грабер звычайна здабывае ў людзей, якія дастаткова задаўжалі ў аплаце ўзносаў і жадаюць пазбавіцца ад аўтамабіляў.

Ёсьць і іншая катэгорыя людзей, якія хочуць прадаць легкавікі, але улічваючы перанасычанасьць рынка патрыманымі аўто, ня могуць узяць за іх шмат.

Кліентаў для такіх незаконных зьдзелак кантрабандысты шукаюць і знаходзяць у кварталах чырвоных ліхтароў і ігорных дамоў ля галяндзкай мяжы.

Для чаго патрэбны электронныя прыборы, якія кантралююць вываз? Усе тэхнічныя сродкі абароны бездапаможныя, калі ўладальнік машыны й кантрабандыст дзейнічаюць разам, а кіроўцы нелегальных арганізацый пераганяюць за мяжу скрадзеныя аўтамабілі з сапраўднымі дакумэнтамі.

Адзінае, чаго пакуль баяцца аўтамабільныя гангстэры, - гэта рэгістрацыі машын перад выездам у прысутнасьці кіроўца. У такім выпадку прозьвішча кантрабандыста можа прымяніцца. У.Грабер упэўнены:"Калі закон прымуць, гандлю з рускімі прыйдзе канец."

**Паводле матэрыялаў "Летувос ритас".**

# АСУДЖАНЫ СУДДЗЯ – ХАБАРНІК

Упершыню пасьля 1990 года ў Летуве асуджаны суддзя. Да пазбаўленьня свабоды на два гады й штрафу ў памеры 2.500 літаў Вярхоўны суд краіны прыгаварыў суддзю Марыямпольскага раённага суда Вітаўтаса Язбуціса.

Крымінальная справа супраць яго была ўзбуджана пасьля таго, як нейкі прадпрымальнік даў сьледчым ворганам магнітафонны запіс тэлефоннай размовы, падчас якой ў яго патрабавалі хабар у памеры 1000 даляраў.

Па законах Летувы за такія дзеяньні адказвае толькі чыноўнік, які можа чым-небудзь дапамагчы хабарадавальніку, тады як Язбуціс, на думку суда, ня мог паўплываць на сьледчых ворганы. Але суд прызнаў яго вінаватым у злоўжываньні службовым становішчам.

**СІМ.**

# СЬЛЯДЫ ЗАБОЙЦЫ ВЯДУЦЬ У ЭСТОНІЮ

Сьледзтва па справе аб забойстве Старшыні Савета Белбізнэсбанка й кіраўніка канцэрна "Камінвэст" Аляксандра Лісьнічука, які загінуў 11 траўня летась, здаецца, зварушылася з месца.

Як стала вядома з кампэтэнтных крыніц, беларуская дэтэктывы змаглі адшукаць каналы паступленьня ў Менск карабіна, з якога ён быў забіты. Зброя была вывезена ў Фінляндыю, а адтуль трапіла ў эстонскую службу аховы краю. Гэтыя абставіны даюць падставы, што заказ на забойства Лісьнічука выканаў наёмнік з Прыбалтыкі.

Што датычыць матываў забойства, то сьледства схіляецца да вэрсіі "нафтавых разборак" паміж "Камінвэстам" і яго канкурэнтамі.

**СІМ.**

# ТВОРЫ ВАЦЛАВА ПАНУЦЭВІЧА. ПРАЦЯГ БУДЗЕ

З 4-га нумара бягучага года "Пагоня" друкуе гістарычны нарыс замежнага беларускага гісторыка й публіцыста Вацлава Пануцэвіча "Горадзеншчына ў нацыянальным руху ў 1918-1919 гадох" (перадрук з газэты "Бацькаўшчына", якая выдавалася ў Мюнхэну, N 3-10, жнівень 1964 г.) Як сьведчаць тэлефонныя званкі ў рэдакцыю й Гарадзенскую краязнаўчую асацыяцыю, чытачы вельмі зацікаўлены матэрыялам В.Пануцэвіча, яго жыцьцёвым лёсам, крыніцамі яго дасьледаваньняў і іншымі публікацыямі. Як нам вядома, публікацыі "Пагоні" ў сучасным беларускім друку папярэднічала праца гэтага аўтара "Кс. Вінцэсь Гадлеўскі. Дзяржаўны Муж і Павадыр Народу", якая надрукавана ў N 3 часопіса "Спадчына" за мінулы год. Што тычыцца асноўных крыніц, выкарыстаных В.Пануцэвічам у артыкуле пра падзеі 75-гадовай даўніны, то яны наступныя:

1. За Дзяржаўную Незалежнасьць Беларусі, Лёндан, 1960.

2. Я.Найдзюк. Беларусь учора й сёньня, Менск, 1944.

3. Гайдукевіч. Гродзенскі Беларускі полк.

4. T.Gaidukevicius, Atsiminimai is tarnubos 1-me Gudu Pest. Pulke, Karo Archyvas, Kaunas, 1938, 214-234.

5. К.Езавітаў. Беларусы й Палякі. Зборнік дакумэнтаў, Кохня, 1919.

6. І.Г.Антонаў. Успаміны аб польскай акупацыі Горадзеншчыны ў 1919-1921гг. Малюнкі гвалтаў й зьдзекаў на Беларусі, 1921.

7. М.Волацiч. Лінія Кэрзона, Бел.Збор. III, Мюнхэн, 1955.

Сярод беларускіх дзеячоў, якія з пераездам у Горадню кіраўніцтва БНР у канцы сьнежня 1918г. прадстаўлялі Беларускую дзяржаўную ідэю на міжнародным узроўні, а таксама стваралі мясцовы беларускі актыў, В.Пануцэвіч узгадвае наступных: "П.Крэчэўскі - старшыня Краёвай Управы, старшыня Рады БНР; Прат.Корчынскі, сябра Тарыбы; Я.Варонка, Міністар Беларускіх справаў пры жамойцкім урадзе; Е.Курлоў - старшыня Гарадзенскай Губэрнскай Управы; Антон Луцкевіч, старшыня Рады Міністраў і Міністр Замежных Справаў; В.Захарка; Л.Заяц; Усевалад Боеў, віцэстаршыня Гарадзенскай Управы; Якавюк; Юргель; д-р Бялецкі; І.Маратоўскі; Б.Шымковіч, дыпляматычны кур'ер; М.Сакора; Ф.Грыб; П.Мядзёлка; Маркевіч - старшыня Беларускай Сялянскай Рады; Г.Казячы, Мышка, Кашэўскі, Ляхоўскі, Данілюк, Дзекуць-Малей; Марозавы. З вайсковых назваць трэба: ген.Кандратовіча, ахвіцэра рас.ген.штабу, які скончыў Парыжскую ваенную акадэмію і быў жанаты з сястрой франц.марш.Фоша, палк.К.Езавітава, сябра Бел.Ваен.Рады, палк.Лаўрэнцьева, кам.1-га Гарадзенскага палку, палк.Раевіч-Шчэрбу, палк.Усьпенскага, падпалк.Гайдукевіча, падпалк.М.Дзямідава - Каманданта Горадні, ротмістра Глінскага - кам.коннага эскадрону, палк.Антонава, кап.Якубоўскага, палк.Юшкевіча і інш."

Спадзяюся, што гэтыя імёны выклікаюць цікавасьць не толькі краязнаўцаў, але і спэцыялістаў-гісторыкаў, архівістаў, каб агульнай працай асьвятліць постаці і падзеі драматычных дзён існаваньня вышэйшай улады БНР у Горадні.

Па тэхнічных прычынах частка артыкула (разьдзелы N 12, 13) не перадрукаваны (разьдзел 12 "Акцыя Аляксюка", фактычна ў аўтарскай публікацыі з'яўляецца 14-м). Гэтыя разьдзелы прысьвечаны крытычнаму пэрыяду пачатка чэрвеня 1919г. і прыезду ў Горадню Пілсудзкага. Рэдакцыя просіць прабачэньня ў чытачоў за парушэньне храналёгіі публікацыі й зьмяшчае ўзгаданыя разьдзелы як дадатак да артыкула В.Пануцэвіча.

У бліжэйшы час намі будзе падрыхтаваны да друку жыцьцёрыс Вацлава Пануцэвіча, які будзе надрукаваны "Пагоняй". Спадзяюся, што газэта прапануе чытачам і іншыя працы гэтага цікавага аўтара.

Андрэй МАЙСЯЁНАК,
Старшыня Гарадзенскай
краязнаўчай асацыяцыі.

В. ПАНУЦЭВІЧ

# ГОРАДЗЕНШЧЫНА Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫМ РУХУ Ў 1918 – 1919 ГАДОХ

## 12. Пратэсты беларусаў

Калі палк. Антонаў спасляўся на ўмову, паводля якой Полк падпарадкуецца толькі каманданту крэпасьці і то ў раўне крэпасьці, а такжа на неабходнасьць ува ўсякім выпадку атрыманьня згоды з Коўні, ген. Фалевіч сказаў:"Я магу ня толькі разьзброіць Полк і арыштаваць вас усіх, але й расстраляць за невыкананьне загаду ген. Шэптыцкага", хоць сам ген. Фалевіч дзень перад гэтым тлумачыў гэты загад непаразуменьнем і тымі абставінамі, што ген. Шэптыцкі ня ведаў аб мове.

Адначасова з арыштамі й рэвізіямі сярод ахвіцэраў беларускага гарадзенскага палка, праводзіліся арышты й рэвізіі сярод іншых беларусаў. А што ўсё гэта рабілася з загаду польскага ўраду й самага Пілсудзкага, сьведчыць той факт, што дзеля арышту падпалкоўніка Дзямідава, каманданта Горадні, і палкоўніка Усьпенскага быў адумысны тэлеграфічны загад з Варшавы. Іх арыштавалі як заложнікаў за вязьненага ў Ковенскай турме Цьвірку-Гадыцкага.

Нягледзячы на ўсе гэтыя рэпрэсіі, заст. палк. Антонава палк. Гайдукевіч пераняў камандаваньне Палком і 2 чэрвеня паслаў рапарт ген. Фалевічу з дамаганьнем вярнуць коні, вазы і ўсё забранае палякамі; зьняць у будынку штабу Палка польскі сьцяг і не перашкаджаць у вывешваньні беларускага й жамойцкага; зьняць з казармаў польскую старожу; спыніць рабунак з боку польскіх жаўнераў; загадаць, каб польскія жаўнеры аддавалі почэсьць беларускім ахвіцэрам на вуліцы; звольніць з арышту палк. Антонава і іншых ахвіцэраў ды вярнуць ім забраную зброю; ня ўмешвацца ва ўнутраныя справы Палка згодна з п. 2 умовы; спыніць набор беларускіх жаўнераў у польскія легіёны. Рапарт падпісалі палк. Гайдукевіч і палк. Касьціцэвіч.

## 13. Прыезд у Горадню Пілсудзкага.

На колькі вытварылася скамплікаваная сытуацыя ў Горадні, якая магла б пашкодзіць польскім інтарэсам у Парыжы, сьведчыць тое, што ў гэты крытычны момант вырашыў прыбыць у Горадню сам Пілсудзкі. Не дзеля паўстрыманьня разгульля палякаў, але для затушоўкі самым Пілсудзкім становішча ды падмацаваньня пр..польскіх элемэнтаў.

Прыезд Пілсудзкага ў Горадню адбыўся 3 чэрвеня 1919 года - гэта ёсьць на другі дзень пасьля разьбраеньня беларускіх аддзелаў у Горадні. У зьвязку з гэтым прыездам Пілсудзкага 2 чэрвеня былі зьнятыя польскія старожы з беларускіх казармаў, жаўнерам і ахвіцэрам дазволена свабодна прабываць у межах гораду.

Палк. Гайдукевіч, даведаўшыся 2 чэрвеня аб прыезьдзе ў Горадню Пілсудзкага, зьвярнуўся да ген. Фалевіча з просьбай, каб дапусьціў яго на аудыенцыю з польскім маршалкам. Фалевіч даў яму запіску да ад'ютанта Пілсудзкага маёра Каспжыцкага такога зьместу: "Прашу выстарацца аудыенцыю ў Начальніка Дзяржавы часова камандуючаму Беларускім Палком ппалк. Гайдукевічу".

Цікава зьвярнуць увагу на тыя настроі, якія былі ў Горадні ў часе прыезду Пілсудзкага, запісаныя ва ўспамінах Антонава. Пілсудзкі сярод беларускага насельніцтва ўважаўся за свайго чалавека, прытым сацыялістага, дык была вера, што ён не пакрыўдзіць. Аднак сапраўднасьць выявіла, што іншае.

"Адбыўся пышны ўезд палкаводца-беларуса, "вялікага" сацыялістага, - піша Антонаў. - Вялікая хаця таму, бо на яго пакладаліся вялікія надзеі. Бо ж не жарты: маршалак - беларус, сацыялісты, вызвалiцель ад вяковага рабства ўсіх нацыяў, ад самадзяржаўя, ад паноў, бальшавікоў маскоўскіх ды нават ад варшаўскіх! Малюнак спатканьня і провадаў Пілсудзкага і прыехаўшых з ім прадстаўнікоў Антанты быў наладжаны Палякамі эфэктна. Быў летні сонечны дзень. На загад усё ўпрыгожылі польскімі штандарамі, арламі, гірляндамі.

Зьехаліся прыгожа адзетыя паны з усіх канцоў, войскі, музыка... Былі прыведзены і дэфіляваны перад трыбунай вучні польскіх і жыдоўскіх школаў. Беларускія школы ня бралі ўдзелу... Ішлі войскі, арганізацыі...

З беларускіх сацыялістых гарачы ўдзел у урачыстым спатканьні, провадах і прамовах прынялі пан Аляксюк і яго сястра, якія ўжо ў той час лічыліся ў варшаўскіх эндэкаў сваімі людзьмі, а ў Беларусаў "пчырымі" дзеячамі. Стоячы на бальконе Цэнтральнай Рады Горадзеншчыны, яны выяўлялі сваю радасьць нібы ад беларускага народу. На іхным бальконе быў плякат з надпісам: "Нех жые польскі довудца, пан Пілсудзкі! Нех жые польске войско!"

На станцыі ў Горадні сустракалі Пілсудзкага й прадстаўнікі ад Беларускага Палка на чале з палк. Гайдукевічам. Гайдукевіч перадаў Фалевічу запіску Каспжыцкаму, а той Пілсудзкаму. Пілсудзкі праз ад'ютанта адказаў, што прыме палк. Гайдукевіча на замку.

На замку пасьля дэфіляды Пілсудзкі прымаў розныя дэлегацыі: польскія, жыдоўскія і беларускую.

Пілсудзкі прыняў насамперш палк. Гайдукевіча з беларускай дэлегацыі. Палк. Гайдукевіч зложыў падробны рапарт аб дагаворанасьці з Палякамі, аб польскіх шыканах і разьбраеньні Палка. Пілсудзкі, праслухаўшы рапарт, прыкінуўся бясьсільным, кажучы, што ня можа нічога зрабіць, бо Полк ня выканаў загаду ген. Шаптыцкага. А на супакаеньне сказаў: "Мы тут толькі госьці, мы адыдзем адсюль, і вы будзеце гаспадарамі".

Пасьля прыёма дэлегацый на замку быў банкет. На банкеце былі й прадстаўнікі ад беларускіх арганізацый і ўстановаў. Асабліва ветлівымі былі польскія прыслужнікі да Гарадзенскага праваслаўнага япіскапа Уладзіміра. Якое ж было зьдзіўленьне гэтага пастыра, калі ён, вярнуўшыся дахаты, даведаўся, што ў часе яго адсутнасьці, г.ё. быцьця на банкеце, польская палявая жандармэрыя рабіла ў ягонай кватэры старанны вобыск з выламам дошак у падлозе, з узломам сьцены і інш. Вось якую вартасьць мелі словы Пілсудзкага. Праз два дні ген. Фалевіч прысылаў да япіскапа свайго ад'ютанта з перапросінамі за начны напад нейкіх "бандытаў", аб чым быццам ён цяпер даведаўся.

На банкеце з беларусаў актыўнай была група Аляксюка. "Салаўінай трэльлю заліваўся яго голас ад імя беларускага народу ў прамове публічнага прывітаньня "вялікага сацыялістага пана Пілсудзкага", - піша Антонаў, - "і пан Пілсудзкі не заставаўся ў даўгу: пахваліў салаўя беларускага й абяцаў беларускаму народу свабоду, незалежнасьць і непадзельнасьць яго зямлі". Далей Антонаў дадае: "І мы бачым, Пілсудзкі споўніў сваю абяцанку: не дзяліў, а цалкам далучыў да Польшчы... Хаця гутарыць, што ад'язджаючы на вакзале, пан Пілсудзкі перад публікай голасна, адкрыта заявіў, што незадаволены дзейнасьцямі сваіх чыноў за разьбраеньне беларускага Палка і рэпрэсій да Беларусаў, бо ён сам беларус і прыхільна адносіцца да іх".

Аб шчырасьці слоў Пілсудзкага не даводзіцца гутарыць. У кажным выпадку была пастаўлена стаўка на акцыю Аляксюка.

(Пачатак у №№ 4–13).



Больш за паўстагодздзе гібее ў старым парку Скідаля палац князя Чацьвярцінскага. Гаспадар, ратуючыся ад рэпрэсій НКУС, зьехаў да Эўропы, а кінуты будынак застаўся ў спадчыну мясцовым савецкім уладам. Зараз тут жыве некалькі сем'яў, якія бадай нічога ня ведаюць пра таго, хто збудаваў палац.

На здымку: так сёньня выглядае палац князя Чацьвярцінскага.

Фатаграфаваў І.БАРЫСАЎ.

